Opłata pocztowa opłacono ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі .. ад 12—2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 10 (35) | Вільня, 11-га траўня 1934 г. | Год 2-гі.

## Як там ёсьць у Літве?

У сувязі з чуткамі аб польска-літоўскім паразуменьні, мы тыдзень назад выказалі на гэтым месцы свой прынцыповы пагляд датычна гэтага пытаньня, рэагуючы на хадэцкае засьляпленьне Літвою.

Сягоньня хочам расказаць нашым чытачом пра тое, як там запраўды ёсьць з беларусамі ў Літве.

Ня будзем браць прыкладу з хадэкаў. Ня будзем варажыць, дзе горш, дзе лепей. Хочам шчыра падзяліцца з сваімі чытачамі тымі весткамі аб палажэньні нашых братоў за літоўскім кардонам, якія маем у руках.

15-га лістапада 1932 году Беларускае Культурна-Прасьветнае Таварыства ў Літве падало літоўскаму ўраду ў Коўне мэмарандум, прыпамінаючы гэтаму ўраду тыя яго абавязаньні, якія адносна беларусаў былі ўзяты на сябе Літвою пры падпісаньні ўмовы з Віленскаю Беларускаю Радаю яшчэ ў лістападзе 1918 году, а затым далікатна малюючы тое, што *цяпер ёсьць* у Літве з беларускаю справаю.

Беларуска-літоўская умова 1918 году, паміж іншым, прадбачыла (як кажа мэморандум):

а) устанаўленьне Міністэрства Беларускіх Справаў;

б) асыгнаваньне на арганізацыю беларускіх інстытуцыяў сумаў, прапарцыянальных ліку насяленьня і тэрыторыі;

в) аўтаномнасьць беларускае тэрыторыі ў Літве з беларускаю ўрадовою моваю на ёй;

г) устанаўленьне асобнага беларускага школьнага інспэктарату.

Якое-ж было выкананьне хоць-бы нават гэтых скромных пунктаў?

Але лепш раскажам словамі ўспомненага вышэй мэморандуму:

„Пасьля ліквідацыі, ў 1923 годзе, Міністэрства Беларускіх Справаў, літоўскі ўрад утварыў інстытуцыю пад назовам: „Цэнтр беларускага руху ў Літве", але інстытуцыя гэта на апраўдавала свайго назову і не прадстаўляла інтарэсаў беларускага насяленьня ў Літве, бо ў працы сваёй абмяжована была толькі выдаваньнем кніжак на беларускай мове. У 1927 г. праца »Беларускага Цэнтру« бяз ніякае шкоды для беларусаў Літвы была перарвана. Замест гэтае інстытуцыі пры міністэрстве заграгічных справаў была пакінена беларуская «рэпрэзэнтацыя», складзеная з 2-х прадстаўнікоў б. „Цэнтру", задачы якіх, абавязкі і праца зьяўляюцца дасюль для беларускага грамадзянства *нявыяўленаю таямніцаю*"..

„У 1925 г. з пазваленьня літоўскае ўлады ў Коўне быў з'арганізованы Беларускі Нацыянальны Камітэт, які меў на мэце прадстаўляць інтарэсы беларускага грамадзянства Літвы, але, праз невядомыя прычыны, літоўскі ўрад у тым-жа самым годзе закрыў і гэтую лёяльную да Літвы інстытуцыю.

Што датычыць асьветы беларускага насяленьня, дык, ня гледзячы на ўсе стараньні і просьбы б. Міністэрства Беларускіх Справаў ды паасобных беларускіх дзеячоў даць беларусам Літвы школу з роднаю моваю, у незалежнай Літве дасюль *няма а ніводнае пачаткавае школы для беларускіх дзяцей*".

Аўтары мэморандуму зазначаюць далей, што беларусы ў Літве абмяжованы ў грамадзянскіх і маемасных правох, што:

„*ад беларусаў адабраны землі, набытыя імі пры падмозе Сялянскага Банку.* У гэтым выпадку беларусы падпарадкаваны закону аб расейскіх колёністах на Літве".

У канцы аўтары мэморандуму выказваюць надзею, што літоўскі ўрад:

„1) пазволіць утварыць у Літве Беларускі Нацыянальны Камітэт, моральна і матар'яльна паможа з'арганізаваньню беларускае культурна-прасьветнае працы;

2) з'арганізуе настаўніцкія курсы дзеля падгатоўкі настаўнікаў для беларускіх пачаткавых школаў;

3) утворыць у заселеных беларусамі мясцовасьцях неабходную колькасьць камплектаў пры існуючых ужо (літоўскіх?—Рэд.) пачатковых школах;

4) на патрэбы беларускае асьветы прызначыць грашовую падмогу з'арганізованаму ў Коўне Беларускаму Культурна-Прасьветнаму Т-ву;

5) установіць пры Міністэрстве Асьветы асобны Беларускі Інспэктарат;

6) зьліквідуе беларускую рэпрэзэнтацыю пры міністэрстве заграгічных справаў, а сродкі, выданыя на гэту рэпрэзэнтацыю, асыгнуе на справы беларускае асьветы;

7) прызначыць неабходныя сродкі на арганізацыю заўсёдных вандроўных курсаў беларусазнаўства і Беларускага Нацыянальнага Тэатру...

8) Верне або дасьць компэнсацыю за забраныя Урадам ад беларусаў землі, набытыя праз Сялянскі Зямельны Банк".

У пункце 9-м сваіх пастулятаў ковенскія беларусы спадзяюцца, што літоўскі ўрад дасьць правы грамадзянства палітычным эмігрантам-беларусам з Віленшчыны і Горадзеншчыны, бо *эмігранты гэтыя трактуюцца ў Літве, як чужаземцы*, і мусяць *за аплату* вырабляць сабе дакумэнты на права прабываньня ў Літве, якой яны ня мала прыслужыліся ў недалёкім мінулым. Мэморандум дамагаецца поўнапраўнасьці для эмігрантаў і дапушчэньня іх да займаньня ўрадовых пасадаў у Літоўскай Рэспубліцы.

З усіх гэтых пажаданьняў ковенскіх беларусаў літоўскі ўрад спыніў сваю высокую ўвагу на пункце 7-м у той яго часьці, дзе гаворыцца аб беларускім тэатры: хай, маўляў, забаўляецца сабе беларуская інтэлігенцыя, а пра *адабраную ад беларуса-селяніна зямельку*, набытую гарбом сваім пры пасярэдніцтве Сялянскага Зямельнага Банку ў старыя часы, ды пра школы беларускія можа пры гэтай забаўцы інтэлігенцыя і памаўчыць.

Вось як выглядае доля братоў-беларусаў у Літве! Аб долі гэтай, каб ня быць галаслоўнымі, мы расказалі іхнымі ўласнымі словамі.

Ад часу зла̀жэньня мэмарандуму дасюль нічога ў Літве не зьмянілася, бо хто-ж палічыць за вельмі вялікую здабычу вандроўны тэатр?

## Яшчэ адзін штрышок камуністычнай правакацыі.

У менскай газэце „Звезда" зьмешчаны артыкул Корчыка пад назовам: „Нацыянальны опортунізм у КПЗБ і ідэолёгічная спадчына Беларускай Рэволюцыйнай Організацыі", у каторым Корчык між іншым піша: „Выкрыцьцё контр-рэволюцыйнай нацыяналістычнай беларускай арганізацыі ў БССР, на чале каторай стаялі былыя дзеячы „Грамады" і „Змаганьня": Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін, Гаўрылік і інш., а таксама выкрыцьцё сярод галоўных прадстаўнікоў ТБШ агентаў польскае дэфэнзывы і беларускага фашызму нанясьлі вялікі ўдар розным махінацыям беларускіх фашыстаў і польскіх імпэрыялістаў".

Далей „прававерны" аўтар вылівае на галовы былых нашых паслоў з Грамады цэлыя цэбры памыяў, плятучы розную бязглуздзіцу на манер усіх камуністычных праклямацыяў аб нейкім міфічным нападзе „беларускага фашызму" на СССР.

Паводле лёгікі савецкага урапісакі, усе беларускія дзеячы, а ў той лічбе і паслы Грамады гадамі сядзелі ў польскіх вастрогах выключна дзеля таго, каб ашукаць „рэвалюцыйныя" масы.

Да гэтага пытаньня мы яшчэ вернемся ў далейшых нумарох нашае газэты і разгледзім яго ўсебакова, а пакуль-што, дзеля недахопу месца, адкажам грам. Корчыку коратка: не беларускія фашысты, як вы называеце кожнага шчырага беларускага барацьбіта за лепшую долю нашага сярмяжнага народу, а якраз совбуржуі і пакорныя служкі Сталіна, якія ў пераважнай большасьці зьяўляюцца адначасна агентамі дэфэнзывы і правакатарамі, прыкрываючыся сваім „камуністычным" плашчом, зьяўляюцца грабарамі запраўднага чэснага радыкальна-рэвалюцыйнага беларускага народнага руху.

Гэта яны пхалі ды яшчэ і цяпер стараюцца сьпіхнуць беларускія масы ў правакатарскія лапы камуністычных агентаў, якія, за грошы сярмяжнага мужыка з Усходняй і Заходняй Беларусі, напіхаюць польскія вастрогі нявіннымі людзьмі, а самі абыймаюцца і цалуюцца якраз з тымі, хто так сама, як і яны сваё шчасьце будуе на няшчасьці нашага гаротнага беларускага народу.

Шчасьце ў тым, што беларускія масы ўжо добра пазналіся на гэтых драпежных шакалях у авечай скуры і ўсё часьцей дый часьцей даюць ім належны адпор.

Не далёкі ўжо час, калі гэтых панкоў будуць кіямі гнаць з нашых вёсак, будуць гнаць старыя і малыя, будуць гнаць жанчыны і дзеці.

*Агляцчык.*

## Страхаваньне работнікаў.

Новая Устава аб грамадзкім страхаваньні, апублікаваная 28 сьнежня 1933 г. зьвяртае асаблівую ўвагу на страхаваньне як работнікаў фізычных наагул, так і парабкоў, у асаблівасьці пагаршаючы варункі страхаваньня (дапамогі, рэнта інвалідзкая) для працаўнікоў умысловых. Трэба адзначыць наступныя катэгорыі страхаваньня фізычных работнікаў. Страхаваньне ад выпадкаў пры працы, як у хаце, так і пры іншых занятках, калі работнік быў ужыты сваім працадаўцам. Права на рэнту ад выпадкаў прыслугоўвае застрахованаму работніку, калі ён зусім, або часткова няздольны да заробку, па прычыне якогонебудзь выпадку, або профэсыянальнай хваробы (атручаньне волавам, жывым серабром, вуглякіслым газам).

Рэнта ад выпадкаў выносіць у месяц $66\frac{2}{3}\%$ месячнага заробку і апрача таго работнік мае права на грашовы дадатак на кожнае дзіця. Калі хворы ня можа абыйсьціся бяз сталай апекі і помачы іншых асобаў, атрымлівае дадатак у разьмеры $33\frac{1}{3}\%$ свайго заробку.

*Права на рэнту ад выпадкаў маюць: ўдава* пасьля памёршага (30%) *і дзеці* – хлапцы да скончаньня 17, а дочкі да скончаньня 18 гадоў.

Аб кожным выпадку ў працы, працадаўца павінен паведаміць страхавальню ў працягу 5 дзён.

Атрымліваючый рэнту ад выпадкаў мае права на рэмонт і аднаўленьне протэзаў.

*Рэнта інвалідзкая.* Інвалідам у разуменьні арт. 154 Уст. зьяўляецца асоба, каторая па прычыне хваробы, дэфэкту фізычнага, або ўмысловага, зьяўляецца няздольнаю да заробку ўласнай працай $\frac{1}{3}$-й часьці таго, што зарабляе ў данай мясцовасьці асоба поўная сіл фізычных і ўмысловых з аднолькавай асьветай і здольнасьцямі. Варунак атрыманьня гэтай рэнты—калі працаўнік быў застрахованы 200 тыдняў (пры акуратнай аплаце складак), каторыя павінны прыпадаць на час апошніх дзесяцёх гадоў перад паўстаньнем інвалідства (арт. 154) з якіх прынамсі пяцьдзесят тыдняў аплачаных складак прыпадае на час апошніх трох гадоў перад паўстаньнем інвалідства.

За інваліда прызнаецца таксама асоба, каторая скончыла 65 гадоў, а нават і ў 60 гадоў, калі была застрахавана 750 тыдняў

Рэнта інвалідзкая ня можа перавышаць 80% месячнага страхаванага заробку. Атрымліваючый інвалідзкую рэнту мае права на дадатак на кожнае дзіцё, а жонка па сьмерці інваліда — на рэнту паінвалідзкую ад часу, калі скончыць 60 гадоў, або і раней, калі няздольная да працы (арт. 154).

На рэнту паінвалідзкую сіроцкую мае права дзіцё памёршага інваліда—па 1/5 кожнай сіроце з таго, што атрымліваў бацька.

Работнік, маючы скончаных 65 гадоў эмэрытальных складак ня плаціць.

Месячная складка за работніка выносіць: 5% хваробных; 5,2% эмэрытальных; 2% фонд працы і каля 0,80% на выпадак. Кожнага прынятага работніка працадаўца павінен зарэестраваць у працягу 7 дзён у страхавальні. Працадаўца павінен падаваць да страхавальні кожны месяц усе пэрсанальныя зьмены разьмеру заробкаў занятых у яго работнікаў, пры чым, калі работнік у час устрыманьня ад працы па хваробе, атрымлівае згодна з умовай аплату, то аплата яго за гэты час хваробы паказваецца нароўні з аплатай у час працы. Абавязкова трэба паказваць усе дадатковыя заробкі работнікаў. Працадаўцы на ўстаноўленых блянкетах павінны аблічаць складкі за застрахаваных работнікаў і аплату на Фонд Працы ў двох экзэмплярах і пасылаць у Страхавальню не пазьней 10-га кожнага наступнага месяца. За неспаўненьне працадаўцамі сваіх абавязкаў у адносінах да работнікаў па іх страхаваньню Устава накладае кару да 500 зл., а за няправільнае выясьненьне дадзеных і да 3000 зл. Усе патрэбныя друкаваныя блянкі (formularze) па страхаваньню работнікаў можна купіць у кожнай Страхавальні. Устава аб страхаваньні парабкоў у жыцьцё яшчэ не ўвайшла.

# Гаспадарчы аддзел.

## Пчалярскія заняткі ў траўні?

Вядомая ўсім пчаляром рэч, што чым сільнейшая пчаліная сям'я, тым большую карысьць будзем мець ад яе. Калі пчолы выдадуць рой, то самі, значна аслабяцца. У нашых варунках найчасьцей пчолы рояцца ў часе галоўнага мёдабраньня. Прыймаючы пад увагу, што пчолы як перад выхадам рою, так нейкі час і пасьля выраеньня гультаяць, дык найлепш устрымоўваць іх ад раеньня. Хочучы павялічыць свой пчальнік можна зрабіць гэта, пасьля галоўнага мёдабраньня, пры помачы штучнае ройкі т. зв. дзяленьня. Раньнія раі, якія выходзяць перад галоўным мёдабраньнем пасьпеюць яшчэ так-сяк устроіць сабе гняздо ды даць невялічкую карысьць, позьнія-ж патрабуюць стараннага дагляду, а часта, на'т восеннай і веснавой падкормкі.

Калі пчаліная сям'я сільная, матка рана зачэрвіць трутнёвую вашчыну, а пры цесным гнязьдзе — пчолы будуць рыхтавацца выдаць рой.

Пчолы, якія думаюць раіцца, перастаюць цягнуць пчаліную вашчыну, а цягнуць шмат трутнёвай, у вульлі знаходзяцца трутні і пчолы закладаюць матачнікі. Пару дзён перад выхадам рою пчолы сядзяць каля лёткі кучкамі, калі ў іншых вульлёх у той час заўзята працуюць.

У такі вулей пчаляр павінен заглянуць і калі пабачыць, што матачнікі ўжо запячатаны, дык гэта пэўная адзнака, што пчолы за пару дзён выпусьцяць рой.

Коратка скажам аб самым раеньні, а также аб тым, як трэба спаткаць рой. Спадзяючыся што пчолы будуць раіцца, пчаляр павінен прыгатаваць: чысты вулей, некалькі рамак з вашчынай, вузой ці пачаткамі, райніцу, чысты венік і вядро з вадою. Натуральная ройка надта клапатлівая і дзеля таго, каб рой ня ўцёк, трэба пільнаваць часам некалькі дзён. Як выходзіць рой—перш сыплюцца пчолы і густа круцяцца каля вульля, а пасьля выходзіць матка. Першы рой выходзіць заўсёды са старой маткай. Старая матка цяжкая і перш нейкі час бегае па лётцы, ці па сьценцы вульля, а пасьля зрываецца ляцець. Добра было-б злавіць матку пры выхадзе. Калі ўдалося злавіць матку, садзім яе ў клетачку т. зв. матачнік. (Клетачку можна купіць, або зрабіць самому з сітка). Клетачку з маткай устаўляем у райніцу. Райніцу ставім у тым месцы, дзе найбольш круцяцца пчолы. Як толькі пчолы зьвяжуцца ў райніцы, пераносім іх разам з райніцаю ў цёмнае і ня надта цёплае месца.

Раі са старымі маткамі, звычайна асядаюць нізка, з маладымі-ж часам нават надта далёка адлятаюць і вяжуцца высока. Каб змусіць пчолы хутчэй сядаць пырскаем на іх памочаным у ваду памялом. Як толькі плочы асядуць, зьбіраем іх у райніцу і паступаем далей, як і ў першым выпадку. (Згортываць пчолы у райніцу можна палонікам, ці якой небудзь іншай прыладзінай, зробленай з кары, ці картону на манер чарпака). Падвечар, калі ўжо пчолы супакояцца, можна ўсыпаць іх у вулей. У вулей, куды будзем садзіць пчолы, трэба ўставіць 3-4 да 6-цёх рамак (у залежнасьці ад сілы рою) з вашчынай, вузой ці пачаткамі. Добра ўставіць з адну рамку з чарвой — тады пчолы напэўна застануцца. Гатовай вашчыны можна не даваць, бо рой прыгатаваны да забудовы новага памешканьня спраўна вазьмецца да работы і ў працягу 10-12 дзён абстроіць сабе гняздо.

Рой можна або ўпускаць праз лётку, зрабіўшы памост з дошкі, або асьцярожна ўсыпаць у вулей з гары. Праз два тыдні пасьля таго, як абсаджаны рой, трэба паглядзець, ці маюць пчолы чарву. Калі чарвы мы не знайдзем, значыць пчолы бяз маткі. У выпадку, калі ў пчолаў няма маткі, трэба ўставіць рамку з маладой чарвой, а пчолы самі выгадуюць сабе матку.

Як мы ўжо ўспаміналі, першы рой выходзіць са старой маткай, у вульлі-ж застаюцца матачнікі, з якіх пасьля выйдуць маладыя маткі. Калі пчаляр ня хоча, каб пчолы далі яшчэ адзін ці болей раёў—павінен усе матачнікі павырэзваць, пакідаючы толькі адзін.

Хочучы, каб пчолы пе раіліся, а сабралі якнайбольш мёду—трэба рабіць наступнае. Адпаведна да павялічэньня сям'і, трэба павялічваць гняздо, каб пчолам ня было цесна, а матцы было месца да складаньня яечак. Пры рамках з чарвой ніколі ня трэба ставіць рамак з трутнёвай вашчынай. Вульлі, якія стаяць на сонечным прыпёку, трэба аценіваць, каб пчолам ня было горача. Трэба глядзець, каб пчолам ня было душна. Пчолам занадта сільным забіраем адну або дзьве рамкі з пячатанай чарвой і падсіліваем слабейшых. Каб змусіць пчолаў да працы, даем ім фабрычную вузу або пачаткі. Урэшце кожныя 8-10 дзён вырэзваем матачнікі. Здараецца, што часам усе захады не памагаюць. Прычынай гэтага бывае старая матка, якую пчолы хочуць зьмяніць. У апошнім выпадку трэба усе матачнікі выразаць, пакідаючы адзін, а пчолы сабе выгадуюць маладую матку. Трэба также не забыцца ўпару даць надстаўкі. Пчолы, маючы гняздо прасторнае і ня душнае, а да таго яшчэ месца на складаньне мёду, пакінуць думку аб раеньні.

## Разумна карыстайма з сваіх пасьбішчаў.

Дзе ня кінь вокам па нашай вясковай гаспадарцы, усюды пабачыць можна недагляд і такія памылкі, якіх нельга дапушчаць. Калі мы зьвернем увагу на вясковыя пасьбішчы, дык пабачым, што яны даюць сякую-такую траву толькі на пачатку вясны, пазьнейжа гэта толькі выган, на якім жывёла ў дастатак карыстаецца паветрам, сонцам і вольным рухам, але толькі не травою. Такі стан рэчы трывае з году ў год, а селянін наш навет і ня думае палепшаць свае пасьбішчы. З гэтага можна было-б заключыць, што беларускі селянін вельмі нядбайлівы, але гэткі вывад быў-бы памылковы. Мы бачым, што селянін наш за жменю ліхое травы лезе з касою па шыю ў багна, абкошвае кожную купінку і куст так чыста і гладка, як толькі гэта можна зрабіць, а калі сушыць сена, дык прыкладае ўсе стараньні, каб яго не замачыў дождж і г. д.

Зразумела, што прычына тут уся ня ў гультайстве, але ў тым, што селяніну не хапае аграмічнае веды, што ён ня ведае, як разумна карыстаць з пасьбішча, сенажаці ці чаго іншага. Вось-жа аб тым, як трэба ўжываць і даглядаць пасьбішчы, каб на іх жывёла заўсёды мела буйную сьвежую траву, мы тут і будзем гаварыць.

Трэба, каб наш селянін нарэшце зразумеў, што гнойнай і пухкай зямлі вымагаюць ня толькі палявыя расьліны, але таксама і травы нашых пасьбішчаў і сенажацяў, бо кожная расьліна патрабуе пэўнае колькасьці паветра і вільгаці ў глебе, хаця, праўда, што гэтая колькасьць для розных расьлінаў бывае розная. Дзякуючы таму, што жывёла ў нас увесь час таўчэцца па ўсім пасьбішчы, дык паверхня яго настолькі зьлягаецца, што не прапускае да сябе ні паветра, ні дажджавое вады. Як вытоптваньне шкодзіць вясковым пасьбішчам, можна заключыць хоць-бы з таго, што на гэтых пась-

*Л. Мосэндз.*

# Брат.

(*Пераклад з украінскагя К.М.*)

Мы ляжымо на маленькім астраўку сярод Буга. Як уцякалі з хаты, ледзь пасьпелі ўхапіць торбу. А ў торбе на ўсякі выпадак ужо прыпраўленыя: сухары, кусок саланіны, крыху солі. Табакі, здаецца, зашмат схапіў; шкада, маме мала засталося. А ўцякаць давялося блізка што з-пад рук цэлага аддзелу чырвоных курсантаў. Абчапілі зьнячэўку сяло з трох бакоў і пачалі вылоўваць мабілізованых

Але школа стаіць крыху ў баку і да нас не пасьпелі: кульгавая Насьця па-за агародамі прыкандыбала і такі папярэдзіла.

І мы з братам уцякалі. Уцякалі ў лозы, ў чараты, ў трысьцё, да чорта, абы далей ад чырвоных.

Выскачылі з падворку ў дубовы лясок, скаціліся ў роў. Наперадзе прыгнуўся і бяжыць брат (брацейка любы!). Худыя лыткі жаласна целяпаюцца ў шырокіх халявах ботаў, куртаты шынель зьбірае зельле.

Мне перашкаджае торба. — Брацейка... зараз у сонечнікі... пераскочым да Буга... на авечы астравок... (а чаму авечы? сьмешна і няма духу сьмяяцца).

Сонца сядала чырвоным колам за мутны, быццам задымлены небасхіл. Ад сяла пачуліся стрэлы, затарахцеў кулямёт... Якраз у час!..

Мы скокнулі ў сонечнікі і пайшлі выпрастаўшыся. Як зладзеі вызірнулі на сенажаць, пралялецелі берагам і страмянулі ў вербы... Разуліся, скінулі нагавіцы і па калены ўгразьлі ў агідна мягкі мул ды аж па пояс у ваду.

Вылезьлі на астравок, абмылі сьмярдзючы мул і залезьлі ў вербалозы. Там адпачылі, задыханыя і падрапаныя, апрануліся і ляглі на расьсьцеленыя шынялі.

Сонца забегла за небасхіл, вечар хутка праглытваў абрысы чугуначнага мосту далей за вадою. Выразьней зрабілася чуваць гуркат Буга на сухой градзе. Над вадою зьняўся лёгенькі туман, першая смуга імглы страсянула худымі плячыма брата. Ён сеў і абапёрся рукамі аб зямлю, быццам вось мае падскокнуць і кудысь бегчы.—Праклятыя! Браце! Думаў ты над тым, чаго мы тут хаваемся? Скажы, думаў? Чаго мы хаваемся... сабакі халабудныя... ваўкі не ўцякалі-б, не...

Што зрабілася з братам? Скуль у яго ўзяўся гэты запальны тон і палкія рухі? Чаму блішчаць вочы, так, як яшчэ ніколі ня бачыў я ў яго, заўсёды спакойнага, крыху бледнага, крыху мне здавалася (даруй!) — лянівага на думку..

Ён быў для мяне ў гэты мамэнт неспадзяванкаю...

Што я, заскочаны яго перакананасьцю і зьместам слова, мог адказаць яму? Што нельга было пакінуць (можа на голад...) старую маці, малую сястру, хворую бабу? Гэта-ж ня быў адказ, бо колькі разоў я гнаў ад сябе спакусу і маўчаў..

Але брат ведаў мае думкі.

— Ты думаў аб нашых? А хіба ім лепей, як мы ўдома? Ці-ж мы ня мусім хавацца і нас няма так сама, як і ня было-б, калі-б пайшлі з сваімі. Ці-ж не мабілізуюць нас штотыдзень і мы ня мусім выкручвацца ды цярпець зьдзек. А маці? І ёй, павер, было-б лепш і лягчэй, калі-б яна ведала, што мы недзе борамся, а не хаваемся тут, як зьвяры... цяпер сядзяць і дрыжаць за нас: ці ўцяклі? куды? калі вернуцца? Якія цяпер заработкі? Ці табе школы шкада? Пакінь! Годзі ўжо пазьдзекаваліся з нас!...

Ён стаў на калены і зашчаміўшы кулакі патрос імі ў бок сяла.

— Не, ты, як можаш... а я не магу ўжо цярпець.. Чуеш! не магу цярпець ужо гэтых азіяцкіх твараў, што за гэты год засмуродзілі мне вочы... эгэ... і вочы можна засмуродзіць... я пайду... туды, куды ідуць усе дужыя... Ты ня бойся, я ўжо выздаравеў (дзе яму, што яшчэ з тыдзень, як устаў з сьмяротнага ложа!), не магу ўжо маўчаць!..

Што я мог адказаць яму? Ён меў рацыю і меў рацыю падвойна, бо ён першы з нас дваіх адважыўся выказаць тыя думкі, што я хаваў ад яго... маладое яшчэ, быццам, дый хворае (даруй, брацейка!).

А брат яшчэ стаяў на каленках і сьціскаў кулакі. І я не пазнаваў яго. Ён вырас і змужнеў; ці-ж за гэты час, што мы прабеглі з хаты на астравок? За гэтых паўгадзіны! Доўга мусі думаў ён і шмат перадумаў, што раптам выбухнулае слова зьмяніла яшчэ паўдзіцячы твар і пераціяло вось-зараз зморшчкаю чало.

І што я мог адказаць яму?

А брат не маўчаў і словы яго ўжо плыўчэй і пасьлядоўней зьляталі з вузкіх вуснаў.

— І вось я кажу табе: лепш загінуць, учапіўшыся ў горла ворагу, як хавацца ад яго, як вось хаваемся мы...

Што я мог адказаць яму? Крохкі, крамны, маўклівы ён, паўдзіцяпаўмужчына, доўга, значыцца, гарэў унутраным запалам і раптам выбухнуў няўстрыманым жаданьнем быць чалавекам... ён меў рацыю.

— Браце! На рэзьню прыводзяць толькі свойскае быдлё, пакорнае і бязвольнае, а вольныя зьвяры гінуць, як вольныя. Зубы на варожым горле і пазуры ў грудзёх... А мы, Украінцы, як тое быдлё...мыкаем, толькі крыху равём, а нарэзьню йдзём. Для мяне ўжо годзі быць быдлём, годзі... Успомні, брацейка, цэлы гэты год, успомні вось зараз гэта, і ты сам пабачыш, што далей нельга цярпець. З сяла ўжо шмат пайшло на жніво, значыцца і яны не захацелі быць быдлём, пачулі сваю чалавечасьць... І нам трэба за імі туды, дзе вечарамі гопаюць гарматы.

— Брацейка, ты маеш рацыю! Ня думай, што гэта мне ніколі-ніколі не прыпадала на думку.

— Я й ня думаю! Толькі вырвалася гэта ў мяне вось цяпер, бо

бішчах трава расьце толькі на пачатку вясны, калі жывёла яшчэ не пасьпела яго добра ўтрамбаваць і выгрызьці траву аж да самага карэньня. Пасьля гэтага трава адрастае вельмі памалу і пасьбішча перастае быць фактычна пасьбішчам. Ніколі ня можна пасьвіць жывёлу на пасьбішчы, залітым, мокрым або з стаячаю вадою, бо гэтым ня толькі псуецца пасьбішча, але небясьпечнае яно і для здароўя перш за ўсё рагатае жывёлы, а з яе асабліва для авец (матыліца). Каб такія пасьбішчы былі добрымі для ўжытку, трэба ў першую чаргу пастарацца, каб вада з іх мела ўвесь час свабодны адплыў. Вялікай памылкай ёсьць выганяць жывёлу загадзя вясною на пасьбішча, а яшчэ большую памылку робіць той, хто пасе жывёлу позна ўвосень аж да замаразкаў, бо выгрызеная да кораня трава ўжо ня мае часу адрасьці і церпіць ад марозу, а вясною адрастае блага.

Нельга пасьвіць усяе жывёлы разам, напрыклад: рагатую жывёлу з коньмі, авечкамі, сьвіньнямі або нават і гусьмі, але трэба, каб асобныя віды жывёлы пушчаліся на пасьбішча адны па адных, па чарзе; пры гэтым трэба пачаць выпашваньне тою жывёлай, якая травы нізка не выгрызае (каровы), а ў канцы пусьціць тую жывёлу, якая грызе траву блізка пры карані (авечкі).

Апрача ўсяго вышэйсказанага, разумнае карыстаньне пасьбішчам будзе тады, калі мы яго разаб'ём на некалькі кавалкаў і па чарзе на адных будзем пасьвіць жывёлу, а на другіх гадаваць траву. Пры гэтым разьбіваць пасьбішча трэба з такім разьлічэньнем, каб на выпасены кавалак паўторна магла прыйсьці жывёла праз якіх-небудзь 4-6 тыдняў. Пасьля таго, як першы кавалак пасьбішча жывёлай належна выкарыстаецца і яе перагоняць на сьвежы, трэба куп'ё ўбіць і пасьбішча забаранаваць востраю бараною; пры гэтым пакінены жывёлаю кал трэба раздрабіць і раскідаць па пасьбішчы, або яго складаць у кучы і рабіць кампост. У тых краінах, дзе пасьбішчы добра пастаўлены, прыкладам у Бэльгіі, кал не пакідаецца на пасьбішчы ляжаць у тым выглядзе, у якім яго пакідае жывёла, а яго размазваюць пастушкі сьвежым па траве. Гэтак расьцёрты кал спалосквaецца першым дажджом, а нават і расою да зямлі і становіцца пажываю для расьліны.

Апрача вышэйпаданага спосабу пасьбы жывёлы ёсьць яшчэ іншы, нічым ня горшы за першы. Маю тут на мэце пасьбу жывёлы на прывязі. Гэты спосаб шырока практыкуецца на багатых дацкіх і галяндзкіх пасьбішчах.

Апрача баранаваньня і раўнаньня пасьбішча пасьля таго, як яго выпасем жывёлай, трэба яшчэ старацца, каб на пасьбішчы ня было ліхазельля, а перш за ўсё расьлінаў атрутных, як казельцы, хвашчы, цыкута і чамярыца.

Баранаваньне вельмі карысна ўплывае на пасьбішча. Дзякуючы баранаваньню дзярно адсьвяжаецца і трава шыбка расьце, так што праз якіх-небудзь 4 тыдні жывёла можа пасьвіцца на ім ізноў. Увосень, калі жывёла перастане пасьвіцца, трэба пасьбішча ізноў забаранаваць і пацярусіць дробным гноем або скрапіць гнаёўкаю. Апрача таго, добры ўплыў на пасьбішча робяць штучныя гна', як каініт і тамасоўка, каторымі таксама трэба гнаіць увосень

Дзе пасьбішчы вельмі ліхія і дзе звычайнымі захадамі травастану направіць нельга, там патрэбна грунтоўнае палепшаньне. Грунтоўнае палепшаньне палягае на тым, што прызначаны для гэтае мэты кавалак пасьбішча заворваецца, разрабляецца і трымаецца пад палявою культураю 2-3 гады, а потым ізноў засяваецца адпаведнай мешанінай траваў і на яго па некаторым часе пушчаецца жывёла.

*З. К.*

## У якую пару году лепей карову пушчаць да быка.

Бегаюць у нас каровы пераважна ў месяцы красавіку або ў траўні, а дзеля гэтага целяцца яны зімою — ў сьнежні, студні і лютым. Цяленьне каровы ў канцы зімы некарыснае для гаспадара, бо ў канцы зімы і вясною малако таннае, а да таго пры такім ацяленьні карова горш доіцца. Паніжэньне малочнасьці каровы настае з тае прычыны, што пабегаўшая вясною карова пры пераходзе ўвосень з травы на зімовы корм абніжае значна ўдоі, а то і зусім запускаецца.

Зусім што іншае, калі карова пабегае ў канцы зімы—ў студні ці лютым, тады яна цяліцца будзе ўвосень—у кастрычніку і лістападзе, і тады пераход на зімовы корм для сьвежаацеленай каровы ня будзе мець вялікага значэньня, а на вясьне зьменшаньне ўдояў затрымаецца, дзякуючы пераходу з зімовага корму на травяны.

Зьмена часу беганьня для старое каровы даволі трудная, затое першае заплоджаньне цялушак можа адбыцца ў кожную пару, у залежнасьці ад жаданьняў гаспадара, дзеля таго гаспадары нашыя павінны старацца, каб цялушкі прыпускаліся да быка толькі зімою,—ў студні і лютым. *Т. С.*

# Пакрыўджаны.

Студэнт Сьцёпа весела чысьціў боты і выбіраўся на вечарынку. Пасьля ён, пасьвістываючы, туптаў і выгінаўся перад люстрам, накладаючы каўнерык. Некалькі разоў падміргнуў сабе: нічога, значыцца, салідны з цябе хлопец. Праўда, мыса ня надта таго... асабліва нос псуе ўсю музыку. Тоўсты, задаўгі. Але ўсё гэта — дробязь. Загледжаны ў люстра, Сьцёпа падабаўся сам сабе і быў задаволены. На даканчэньне ўсяго ён узяў капялюш, павярцеў яго франтавата, прайшоўся пару шагоў па пакоі, размахваючы рукой з капялюшом.

У паветры пахла зеленьню і ціхай радасьцю адбіваўся ў душы Сьцёпы пявучы шум вечарэючых вуліц. Шыбкім шагам ішоў Сьцёпа на прадмесьце, дзе жыла яна. І цяпер, больш як калі, Сьцёпа быў упэўнены ў яе каханьні. Ён будзе сяньня ёй шмат гаварыць, прыгожа, задуменна. Пасьля вечарынкі яны пайдуць уночы па заціхшых вуліцах далёка... далёка... аж да раніцы будуць хадзіць. Рашуча Сьцёпа зазваніў і, палажыўшы на крэсла капялюш, увайшоў у пакой. У пакоі — былі госьці. Сэрца Сьцёпы зьвярнулася ў камяк і білася спалоханай птушкай. Прывітаўся і сеў. Гаварылі, ігралі, сьмяяліся. Але Сьцёпа наймення праяўляў вясёласьці. Яна мала зьвяртала на яго ўвагі. Яе сьпела-каласьсянага адліву валасы разьвяваліся перад ім сярод варожых галоў. Тонкія пальчыкі спрытна беглі па клявішах, і балюча ўдаралі па сэрцы, звонкі сьмех салодкай атрутай муціў Сьцёпу. Пачалі выбірацца. Сьцёпа плёўся ззаду і ногі яго ледзь цягнуліся. А кампанія сьмяялася. На вечарыне селі разам. Ён глянуў дакорна на яе—і хацеў сказаць, што яна нядобрая. Але зайграла музыка. Малады, чорнавалосы студэнт запрасіў яе і... Сьцёпа сядзеў нярухома і тупы боль смактаў яго сэрца. Высака ўзьлятаюць гукі, млеюць, дрыжаць, заміраюць, то ўстрапянуцца і зьвіняць званчыкамі, калышуцца, кружацца, ўюцца.

Лашчацца гукі, туляцца к сэрцу і клічуць яго ў чароўнасьць нязьведаную. Падаюць дажджамі вясьнянымі, цяжкімі, вясёлымі кроплямі, купаюцца ў сонцы, рассыпаюцца пяшчотамі.

А яны-ж, чорт вазьмі, радыё слухалі разам. Ён адну слухаўку і яна. І галовы іх былі так блізка. Яе валасы нявымоўна пяшчотна казыталі яго твар...

Сьцёпа пачуў вялікую крыўду. Гэтыя радасныя твары студэнтаў паказаліся яму такімі праціўнымі, агіднымі.

Праіграў ён сягоньня. З расплыўшым крыўдай тварам выйшаў ён у калідор і закурыў папіроску. Вынуў люстэрка і—анямеў. Брыдота-ж я, брыдота! Такім вялікім і нялюдзкім паказаўся яму нос, а вочы былі нейкія дурныя, як вылітыя з волава. Сьцёпа балюча скрывіўся і чуць не заплакаў Але стрымаўся. Увайшоў яшчэ ў салю. Убачыў яе. Яна танцавала з студэнтамі і сумысьля не глядзела на яго. Нялоўка круціў Сьцёпа ў руках капялюш, якім хацеў выклікаць у яе спачуцьцё. Ён—выходзіць! Ён—пакрыўджаны. Можа падыйдзе. Будзе прасіць астацца. Скажа пару цёплых слоў, што яго сагрэюць, асьмеляць... Не дачакаўся. Выйшаў і пабрыў па заглохшых вуліцах. Ішоў і ішоў; пахла зеленьню... Не заўважыў, як забрыў дзесь у глухое прадмесьце. Стаў ля разваленага плоту, абапёрся, а пасьля глуха ўпаў на зямлю і прарваўся ціхім плачам.

— Паскуда, паскуда... — шаптаў ён праз плач. Твар яго ад плачу напух. На сэрцы зрабілася неяк лягчэй. І думкі пасьвятлелі. Ужо толькі ўсхліпваў.

А пасьля чамусьці падумаў:
— Але зямля яшчэ сырая, можна прастудзіцца.

Паволі падняўся і пайшоў разважным шагам да хаты.

Назаўтра ён слухаў з ёй радыё і яе валасы, адліву сьпелага жыта, прыемна казыталі яго шчокі.

*М. Дальны.*

**БАЦЬКІ!**

**Навучайце вашых дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску.**

ўжо не магло стрымацца ў маёй душы. А цяпер годзі. Заўтра выкапаеш ты свае рэвальвэры, пацешым нашых і пойдзем... Яны ня будуць затрымліваць! Пабачыш! Яны, а асабліва баба, я бачу, самі ўжо адчуваюць, што нам трэба ісьці. І я пайду, браце, пайду, пайду... Мяне кліча...

Ён падсунуўся да мяне, абняў за шыю худою рукою і пяшчотліва пацёрся сваёю шчакою аб мой няголены падбародак.

— Брацейка, мілы! Калі-б ты ведаў, колькі я перадумаў за апошні месяц. Пасьля я табе раскажу ўсё, пагаворым шмат. Ты ня думай, што я малы, як мяне завуць удома. Ведаеш, я думаю, што як мы прамігаем гэты дзевятнаццаты год, — а яго ўжо палова й засталася, — дык ніколі ўжо не спраможамся на сваю ўласную долю.

І мы сядзелі моўчкі, абняўшыся сярод вербалозу і чарату, на маленечкім авечым астраўку. Рацыю мае брат! Ня оўцамі, а ваўкамі трэба быць, каб запраўды не прамігаць гэтага парнага, гучнага і крывавага дзевятнаццатага году.

Мы моўчкі сядзелі, а ноч ужо цалком абгарнула зямлю... І раптам сярод цішы, з захаду пачулі мы далёкае гуп, гуп-гуп-гуп, дый зноў, дый зноў. Я добра знаў яго, гэтае гупаньне: гэта недзе далёка на захадзе стралялі гарматы, гарматы тых, што не захацелі быць оўцамі...

Брат здрыгнуўся.

— Чуеш? Клічуць!

Я чуў. І мы ізноў замоўклі. Аб чым думаў мой брат?... а я праходзіў успамінамі мінулае паўгодзьдзе.

Ужо ў лютым з паўночнага ўсходу прыляцеў злы сакавік-сухавей і цэлымі днямі зьнімаў паўзамерзлы пыл на разьежджаных шляхох. Ён жываедна ўрываўся ў вёскі, дуба ставіў саломеныя стрэхі, зрываў шапкі, чапляўся за сьвіткі і, выгукваючы паўночныя пагрозы, ляцеў далей, на прастор зьнясьнежаных палёў. Марозным подмухам смагі сушыў ён карэньчыкі руні, вымятаў падлескі, зьядаў лядовую лупіну ў прыдарожных равох і гукаў, і высьвістваў і завываў, як тая арда, што сунулася за ім з паўночнага ўсходу. Як тая арда, перад якою ляцеў ён, вястун навалы сваіх праклятых дзяцей.

А ўжо ў красавіку сонца выходзіла, як расьпечанае кола, на мутнае, быццам дымным завоем пацягнутае, неба і дасушвала тое, чаго не дасушыў сакавік-маскаль. Дождж пралятаў толькі, як подых вільгаці і зноў таміліся нівы і сенажаці нявымоўнаю смагаю.

О, гэта ён, марац-маскаль-сухавей, прыгнаў на нашыя палі шэрую, скуластую саранчу — таварышоў, наскрозь прасякненую смуродам агіднае лаянкі, хамствам адвечнага рабства і бязьмежнаю зайздрасьцю згаладнелага разбойніка. З іхніх бяздонных гарлюк толькі й вылятала сухое, раскоцістае, кулямётнае рррр... у гадкіх, глумлівых словах: контр-рэвалюцыя, пятлюраўцы, буржуі і канчалася зьдзеклівым, рагатлівым: хаххлы, хаххлы!

І была ў гэтых словах і ненавісьць, і пагарда, і прагавітасьць заграбастаньня, што вякамі кідала згаладнелую поўнач на мягкі поўдзень. Быў у іхніх словах, рухах, паступках штучна вякамі стрымліваны выбух разбойніцкае расьпярэзанасьці і жорсткае насалоды... Брат меў рацыю! Далей ужо ня было сілы цярпець!

А з захаду ізноў загуло, загупала, быццам у вялізарная грудзі нехта гупаў кулаком, пацьвярджаючы грозную прысягу... Гэтае гупаньне даўно ўжо разбухторвала край і клікала-звала, гукала... да сябе „на жніва", як казалі бацькі і маткі скураным людзям, што дапытваліся пра іхніх бязьвесных дзяцей.

І зноў тады гурчала: — Ага! на жніва! Ведаем мы жніва! Да Пятлюры, Няздыйміноса, Зоркі, на жніва! бандыты, буржуі, хахлы!..

І шмат іншага перадумаў я, седзячы каля брата, што пачаў драмаць на маім плячы.

Успомніў і тое, як у мяне ў школе расстралялі партрэты гэтманаў і як дралі украінскія кніжкі і як рэквізавалі ўсё, на што ўпала іхняе вока... і выезную сэсію чэка ўспомніў... (кароткая памяць наша!) І яшчэ і яшчэ ўспамінаў... і таго камісара, што хваліўся выгнаць з нашае ваколіцы ўпорлівы, самастойны, «хахлацкі» дух ды навучыць нас розуму... А ўвечары той самы камісар, напіўшыся і нажоршыся, як галодны сабака, разьвёз сваю п'яную душу ды выліў перада мною сваю любоў (любоў!) да „маларасійскага" баршчу, саланіны-каўбасы, белага хлеба... і салодкіх украінскіх дзяўчат.

На тое яна і лезла гэтая распаношаная паўночная саранча і ў п'янай шчырасьці прызнавалася, што Украінцы датуль будуць ёй дурнямі, пакуль мецімуць ласкавае неба, пахнючае паветра, чорную пухкую зямлю, ды пакуль ня будзе ў іх жалезных кулакоў і сталёвых клоў, каб урэзвацца ў жываедзкія горлы.

О, ты квяцісты дзевятнаццаты годзе! У тваёй сухой вясьне і гарачым леце пачынае адроджвацца „чаркаская" запекласьць! Ты запальваеш агнём волі маю бацькаўшчыну, ты выпякаеш з сэрца ману братэрства, ты робіш з нас,—яшчэ ўчора дзяцей, — людзей і чалавека...Табе, дзевятнаццаты годзе, што ў крыві і пажары, у траскатаньні скарастрэлаў, і выбуху шрапнэляў, у зьдзеку, гэройстве і боягуле ідзеш праз нашыя сэрцы — табе прывет!...

Я сядзеў, думаў, курыў. Брат спаў, скуліўшыся пад шынелінаю. І нарэшце сон пахіліў і мяне каля яго...

Раніцаю я прачхнуўся адзін. Прымятая трава ўжо была ўкрыта расою, брата ня было. Ня было яго і ў хаце, куды я перабраўся зноў. Устаў і пайшоў, куды клікала яго гупаньне ў далёкія грудзі! О браце! О, дзевятнаццаты годзе!

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## У Вільні.

*Лекцыя прафэсара Галкоўскага.* 5-га гэтага траўня ў залі Беларускае Філіі Дзяржаўнае Гімназіі імя Ю. Славацкага праф. музыкі гр. Галкоўскі прачытаў цікавую лекцыю на тэму „Станіслаў Манюшка — вялікі пясьняр Польшчы". Лекцыя ілюстравалася выступленьнямі солістаў і сьветлавымі абразамі. Вялікі лік музычных твораў Манюшкі пачула публіка ў гэты вечар у мастацкім выкананьні п. Раўкоўскага (барытон), пані Плеэўскай (сопрано), панны Цумфт (рояль) і п. Тэльмашэўскага (віолёнчэля).

Акомпаньяваў солістам праф. Галкоўскі на роялі і некаторыя набожныя песьні на фісгармоніі. Кожны музычны твор публіка пакрывала нясьціхаўшымі доўга аплёдысмэнтамі, пераходзіўшымі часам у авацыю. Асабліва захапіў слухачоў віолёнчэліст п. Тэльмашэўскі выкананьнем „Полёнэзу" і вядомае малітвы „Вечар".

Лектар праф. Галкоўскі, чытаўшы пабеларуску, нарысаваў поўны абраз жыцьця і творчасьці Манюшкі, які паходзіў з нашае Меншчыны. Лектару была вказана публікаю шчырая падзякі ў дружных і доўга грымеўшых воплесках ўсяе залі.

Рэдакцыя наша пастараецца апублікаваць гэту лекцыю, хоць можа з малымі скарочаньнямі, каб пазнаёміць сваіх чытачаў з творчасьцю вялікага сына Меншчыны.

*Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын* паведамляе, што 11-га лютага г. г адбыўся Агульны Сход, на якім былі выбраны новыя ўлады. У склад прэзыдыюму ўвайшлі: Старшыня — гр. А. Астроўская, Віцэ-старшыні: гр. гр. А Быхавец і К. Грышкевічыха, Сэкрэтарка — гр. З. Фенюк-Міхалевіч, Скарбнік — гр-ка А. Лекант.

Рэвізійная Камісія выбрана ў наступным складзе: гр. гр. Н. Шнаркевічыха, Т. Стракоўская і Н. Міхалевічанка.

*Выясьненьне.* У хроніцы папярэдняга нумару была зьмешчана ня зусім дакладная і правільная зацемка аб звальненьні з гімназіі вучыцеля В. Грышкевіча і дзеля гэтага, па атрыманьні рэдакцыяй больш дакладных інфармацыяў, выясьняем, што грам. В. Грышкевіч быў звольнены з гімназіі і пераведзены да пачатковага школьніцтва (школа № 18) на падставе закону аб рэарганізацыі школьніцтва па той прычыне, што 'дырэктар гімназіі ў сувязі з апошнімі падзеямі („Новая Варта" і т. п.) адмовіўся ад супрацоўніцтва з гр. В. Грышкевічам.

Рэдакцыя з прыкрасьцяй мусіць сьцьвярдзіць, што наагул папярэдні нумар „Роднага Краю" з прычыны падгатоўкі да пераносін рэдакцыі на другую кватэру быў выпушчаны без перагляду рэдакцыйнай калегіі і дзеля гэтага трапіў туды матэр'ял неадпаведны, як прыкладам хоць-бы характарыстыка „Летапісу ТБШ", у артыкуле „Развальваюць сваімі ўласнымі рукамі", якая зусім не адпавядае запраўднасьці, бо „Летапіс" ня можна ставіць на адным роўні з „Беларускаю Крыніцаю", рознымі „беларускімі газэтамі" і г. д.

*Школьныя канікулы.* 16 чэрвеня пачынаюцца летнія канікулы ўва ўсіх сярэдніх і пачатковых школах на абшары Віленскага Куратарыюму.

*Запісы ў пачатковыя школы.* Пан Куратар Віл. Школьнага Вокругу вызначыў тэрмін дабраволь-ных запісаў дзяцей у пачатковыя школы на дзень 13 і 14 траўня 1934 году. Дзеці, якія радзіліся ў 1927, 26, 25, 24, 23, 22 і 21 г.г. падлягаюць школьнаму абавязку ад дня 15 жніўня, г.г.

*Агульны зьезд саюзу польскіх скаўтаў.* 11-га і 12-га гэта траўня ў Вільні адбудзецца Зьезд Саюзу Польскіх Скаўтаў. На зьезд гэты зьехалася каля 500 дэлегатаў з усяе Польшчы. Прыехалі між іншымі: Старшыня Саюзу Шлёнскі ваявода Др. М. Грамынскі і Міністар Асьветы В. Енджэевіч.

Раніцаю 11.V. на спатканьне Міністра Асьветы усе сярэднія школы Вільні ў тым ліку і Беларуская гімназія выслалі сваіх дэлегатаў (па 11 вучняў з вучыцелем і Дырэктарам) з аркестрамі.

*Выбары ў Гарадзкую Раду*, назначаныя на 10 чэрвеня сёл. году, выклікалі ажыўленьне сярод жыхарства Вільні. Пакуль што расплякатавана па месьце адозва «Obywatelskiego Komitetu Wyborczego Bloku Gospodarczego Odrodzenia Wilna».

## Жаноцкі Інтэрнат Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын у Вільні.

(Даканчэньне, гл. № 8).

Відаць у добры час Аб'ядн. Бел. Жанчын залажыла дзявочы інтэрнат пры Віл. Бел. Гімназіі. Фактычна заргапізавала яго ініцыятарка і адна з закладчыц Аб'ядн. Бел Жанчын, а таксама і старшыня гэтае арганізацыі грам. Антаніна Астроўская. Гэта жанчына — баяўнічка з гарачым сэрцам, з няўтомнаю энэргіяй, залажыла інтэрнат, як мы ўжо ўспаміналі, зусім ня маючы грошай, а таксама ніякіх пэрспэктываў на тое, каб іх атрымаць у будучыні.

Так звычайна проста грам. А. Астроўская забірае ў сваю хату і пад сваю апеку ўсіх прыехаўшых вучаніц нашае гімназіі з пачаткам школьнага 1932-33 году і гэтым самым дае нам новую беларускую гэтак важную пляцоўку.

У 1933-34 школьным годзе дзявочы інтэрнат АБЖ знаходзіцца ўжо ў Вільні і месьціцца на Садовай вуліцы № 9, кв. 4. І вось давялося мне быць у гэтым годзе ў інтэрнаце. З радасьцяй аглядала я там кожны куточак. Адразу кідаецца ў вочы чысьціня, парадак і наагул руплівасьць. Кіраўніцаю інтэрнату ў гэтым годзе зьяўляецца грамадзянка Ксенія Грышкевічыха, якая бясплатна ўзяла на сябе гэтую цяжкую працу. Жывучы там на месцы, яна ўваходзіць у кожную праяву жыцьця дзяўчат у інтэрнаце, жыве іх радасьцяй і іх горам. У гэтым інтэрнаце не адчуваецца таго прыгнечаньня, тэй казёншчыны, якая найчасьцей пануе ў інтэрнатах. У свабодныя хвіліны чуецца беларуская песьня. Кожны дзень у гадзіны занятkaў у інтэрнаце дзяжураць вучыцелькі Віл. Бел. Гімназіі і сяброўкі Аб'ядн. Бел. Жанчын. І тут гэтак выразна адчуваецца тое цяпло, тая лучнасьць, якая пануе паміж старшымі і моладзьдзю і якую Аб'яднанкі патрапілі там вытварыць. Беларускія жанчыны не на словах, а чынам праявілі любоў да свайго Народу і Бацькаўшчыны, ўзгадоўваючы сабе заступніц, якія павядуць новае пакаленьне да лепшай сьветлай будучыні.

Памагай Вам Божа -- гэткіх людзей да працы нам трэба.

*N.*

## На правінцыі.

*Пабочныя заробкі айца А. Зубовіча.* Галубічы, Дзісьненскага п. Часта ў нашай газэце пісалася пра розныя выпадкі з жыцьця нашых духоўных пастыраў, але мусі такога здарэньня, аб якім тут буду гаварыць, яшчэ ня было.

Наш бацюшка айцец А. Зубовіч у царкве, пасьля набажэнства, з амбону абвясьціў, што ў Вільні жыве адзін багабойны, багаты і добры пан Н...., які хоча ўсынавіць хлопчыка, а таксама, што яму патрэбны добры, сумленны і працавіты парабак. Бацюшка не шкадаваў словаў і ў гэткіх мілых хварбах абмаляваў жыцьцё ў пана Н...., што хлопцы навыперадкі прапанавалі сваю працу. Тым больш, што варункі, на цяперашнія часы, зусім добрыя: 30 злотых у месяц на ўсім гатовым. Ахвотнікаў было шмат, але бацюшка свой выбар спыніў на бедным селяніне Цімаху Таразэвічу. Наш выбранец чуў сябе на сёмым небе. Згадзіўся на ўсе варункі, запрапанованыя яму міласэрным айцом. Згадзіўся нават заплаціць айцу духоўнаму за „фатыгу", ці правільней за фактарства аж 50 злотых. Дзеля таго, што сваіх грошай ня было, пазычыў у суседа 75 злотых, заплаціў бацюшку 50 зл., а на рэшту купіў білет і прыехаў у Вільню. Пасьля доўгіх вандровак па Вільні, бо быў дадзены недакладны адрас, трапіў да мэты свае падарожы, да пана Н..... Але тут з шчасьлівага адразу зрабіўся нешчасьлівым. Варункі пана Н... былі зусім іншыя, як тыя, аб якіх так красамоўна расьпісваў бацюшка. Прышлося думаць аб паваротнай дарозе да дому. Усе надзеі аб добрым жыцьці ў багабойнага пана расьсеяліся, як дым—грошай на дарогу ня было. Пасьля доўгіх і цяжкіх просьбаў удалося пазычыць грошы на білет і, сьціснуўшы сэрца, ехаць да дому. Праўда, дома бацюшка, хоць і вельмі неахвотна, грошы за фактарства аддаў; але я спытаюся, хто аддасьць яму грошы, патрачаныя на дарогу? Не па сваёй-жа віне ён патраціў іх. Тут моральны абавязак міласэрнага бацюшкі разам з „багабойным і добрым" панам Н... зьвярнуць ня толькі кошты падарожы, але вынаградзіць і за патрачаны час. Бо чыя тут віна? Віна выключна толькі бацюшкі, які, не разабраўшыся добра ў справе, ня спраўдзіўшы добра сур'ёзнасьці намераў пана Н...., пачаў вярбоўку людзей.

Гэтае здарэньне наказвае, як блага робіць той, хто прэцца з вёскі ў горад, лёгка верна прымаючы розныя рэклямы аб добрых пасадах. *Прыхаджанін.*

## У Чэхаславаччыне.

*„Іскры Скарыны".* Выйшаў (літаграфічна) № 4 „Іскры Скарыны" травень 1934 г. Прага-Чэская. У гэтым нумары „Іскраў Скарыны" ёсьць шмат матар'ялу, апраўленага ў прыгожную вокладку.

Дэтальны разгляд гэтага нумару падамо ў наступным нумары.

# Палітычная хроніка.

× У суботу 5-га гэтага траўня прадоўжаны на 10 гадоў пакт аб ненападаньні паміж **Польшчай** і **СССР.** Пакт падпісаны ў **Маскве** польскім амбасадарам Ю. Лукасевічам з аднаго боку і народным камісарам замежных справаў Літвінавым—з другога. Пакт мае сілу да 31 сьнежня 1945 г. Кожная з старонаў будзе мець права адступіць ад пакту, папярэджваючы аб гэтым за 6 месяцаў да гэтага тэрміну. Калі папярэджаньне гэткае ня будзе зроблена, дык аўтаматычна пакт прадаўжаецца яшчэ на два гады. У канцовым пратаколе пакту ўрад СССР сьцьвярджае, што нота народнага камісара Чычэрына з 28 верасьня 1926 г., скіраваная да літоўскага ўраду, ня можа быць тлумачанаю так, як быццам нота гэтая мела-б мэтаю ўмяшаньне савецкага ўраду ў справы ўрэгуляваньня тэрытарыяльных пытаньняў, закранутых ў ноце.

Пратакол аб прадоўжаньні пакту ўвайдзе ў жыцьцё пасьля абмену ратыфікацыйнымі дакумэнтамі.

× У **Аўстрыі** апошнімі днямі ўзмоцнілася акцыя гітлераўскіх саботажыстаў. А 3-й гадзіне раніцы ў нядзелю 6 траўня адбыліся ў **Вене** на ўсходнім вакзале, а таксама і на вакзале ў Анспаг два сільныя ўзрывы бомбаў, выклікаючы пажары. Ахвяраў сярод людзей ня было. Матар'яльныя страты—паважныя.

А 10 гадз. ўвечары 6. V. невядомая асоба кінула праз вакон бомбу ў кавярню Пальмгоф у Вене. Некалькі асобаў ранена.

× Паводле вестак лёнданскае прэсы, **Францыя** будзе трымацца поўнае свабоды ў справе азбройваньня, не прызнаючы за Нямеччынай права дазбройваньня, якое немцы хацелі-б давясьці да францускага роўня.

× **Нямецкі** пасол у **Рызе** падаў востры пратэст латвійскаму ўраду з прычыны нібыто зьняважаньня канцлера Гітлера ў часе соцыялістычнага паходу 1 траўня. Маніфэстанты нясьлі ляльку, якая мела азначаць Гітлера.

× Паміж **Эстоніяй** і **Латвіяй** расьце ўвесь час моцнае злучэньне. Прыехаўшы ў Рыгу 7-га траўня эстонскі міністар заграпічных справаў Лазатэй заявіў прадстаўнікам газэт, што эстонскі і латвійскі ўрады выступяць у Лізе Народаў з трэбаваньнем гарантыі нэйтральнасьці балтыцкіх дзяржаваў. У некаторых дзяржавах прадстаўніцтва эстонска-латвійскіх інтарэсаў мае быць супольным.

× У **Францыі** ў нядзелю 6. V. адбыліся ў некаторых акругох дадатковыя выбары ў парлямэнт, пры чым былі вострыя сутычкі паміж варожымі партыямі. У Бордо камуністы разьбілі мітынг, арганізованы саюзам камбатантаў. Паліцыя мусіла ўжыць зброю.

× **Шэф ГПУ памёр**. Як падае агенцыя ТАСС з **Масквы**, памёр тамака шэф ГПУ Вацлаў Менжынскі. Менжынскі радзіўся у 1874 г. і меў вышэйшую юрыдычную асьвету.

× У **Амэрыцы** арыштованы б. прадстаўнік савецкага Амторгу —Буртон, абвінавачаны ў выпуску фальшывых банкнотаў на 100.000 даляраў. Буртон прызнаўся да віны.

# Усячына.

**Што робіцца ў сьвеце ў працягу аднэй гадзіны.**

Жыцьцё цяпер вельмі зложанае і разнароднае. Пра жыцьцёвае „тэмпа" найбольш можа сказаць нам статыстыка.

Сьцьверджана, што ў працягу аднае гадзіны на сьвеце родзіцца 5440 дзяцей, але ў гэты самы час памірае 4630 чалавек. Між тым у працягу, аднае гадзіны на ўсёй зямной кулі вянчаецца 1200 параў. У той час, як гэтыя шчаслівыя пары цешацца зямным раем, 170 параў разводзіцца.

Падобныя-ж рэчы дзеюцца і ў галіне праступкаў. У працягу гадзіны гіне з рук злачынцаў 15 чалавек. У той-жа час у цэлым сьвеце перад судамі стае 198 500 абвінавачаных, а з іх 177 000 засуджваецца.

Цікавыя рэчы таксама дзеюцца ў галіне вытворчасьці і спажыцьця. Так напрыклад: кожную гадзіну цукраварні выробляюць 99.600 тонаў цукру, за гадзіну людзі выкураць табакі на суму 11 мільёнаў 700 тысячаў злотых, а вып'юць паўтара міліёна літраў гарэлкі.

Цікавае для гаспадыняў. У працягу гадзіны кухаркі мусяць ачысьціць 25 міліёнаў кілёграмаў бульбы, прыгатаваць 3 600 000 кілёграм мяса, 30 мільёнаў хлеба і 2 з палавінаю мільёнаў яец.

За адну гадзіну вуглякопы цэлага сьвету выкопваюць з зямлі 122 тысячы тонаў вугля.

У працягу аднэй гадзіны на зямной кулі высылаецца 144 тысячы тэлеграмаў, а на паштовыя маркі людзі выдаюць 200 мільёнаў злотых і расходуюць 1900 тоннаў паперы.

Так кіпіць жыцьцё!!

## Біржа

з 11.V.34

За залаты рубель плацілі 4 зл. 62 гр.; за рубель сярэбраны—1 зл. 30; за залаты даляр — 8 зл. 92 гр. за папяровы даляр— 5 зл. 25 гр.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.